# Голас Радзімы

№ 15 (2001)
9 красавіка 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




**Маці касманаўта Пятра Клімука Марфа Паўлаўна. Час і не заўсёды спагадлівы лёс пакінулі свае адзнакі на яе добрым сялянскім твары. Як і мільёны беларускіх жанчын, перажыла яна вайну, гаравала з дзецьмі ў разбуранай пасляваеннай вёсцы. А хто змерае сілу мацярынскага болю, калі ў бяссонныя ночы думала пра сына, які, здавалася, у той час быў бліжэй да зорак, чым да яе, маці. (Фотарэпартаж з вёскі Камароўка, радзімы касманаўта Пятра Клімука, змешчаны на 4-й стар.).**

## ВІЗІТ М. ТЭТЧЭР У СССР

З 28 сакавіка па 1 красавіка ў Савецкім Саюзе з афіцыяльным візітам знаходзілася Прэм'ер-Міністр Вялікабрытаніі Маргарэт Тэтчэр.

У Крамлі адбылася сустрэча Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова з М. Тэтчэр, у час якой разгорнута і паглыблена абмяркоўваліся буйныя пытанні сучаснасці. Размова ішла ў дружалюбным тоне, хоць і не без палемікі, якая таксама, аднак, мела на мэце лепш зразумець адзін аднаго, ясней уявіць сабе пазіцыі і намеры, палітычную логіку кожнага.

М. С. Гарбачоў выказаў рашучую нязгоду з думкай, што бяспека можа грунтавацца на палітыцы сілы. Гэта старая канцэпцыя, якая прынесла ўжо многа бед у пасляваенны перыяд, падкрэсліў ён.

Пры адрозненні меркаванняў аб прычынах рэгіянальных канфліктаў субяседнікі згадзіліся ў тым, што дабівацца іх урэгулявання трэба палітычнымі сродкамі.

Пераважная ўвага ў гутарцы была ўдзелена праблемам спынення гонкі ўзбраенняў. Мы не збіраемся ваяваць ні супраць ЗША, ні супраць Вялікабрытаніі, ні супраць каго б там ні было, заявіў М. С. Гарбачоў. Гэтым тлумачацца нашы ініцыятывы і канкрэтныя крокі. Але мы не атрымліваем на іх адэкватнага адказу. Два гады мы назіраем адно і тое ж: як толькі штосьці засвеціцца ў сэнсе пазітыўнага вырашэння, адразу ж актыўнасць у Вашынгтоне, Лондане, Парыжы, Боне накіроўваецца на шуканне прычын, каб, спасылаючыся на «перавагу» Савецкага Саюза, затармазіць працэс.

М. С. Гарбачоў рашуча не згадзіўся з думкай, быццам ліквідацыя ядзернай зброі ў Еўропе пакіне за Савецкім Саюзам значную перавагу ў звычайных узбраеннях і будзе ствараць палітычную пагрозу Заходняй Еўропе. Ён пацвердзіў гатоўнасць Савецкага Саюза пачаць самыя глыбокія і ўсебаковыя перагаворы па скарачэнню звычайнай зброі і ўзброеных сіл абодвух ваенных блокаў.

Па просьбе М. Тэтчэр М. С. Гарбачоў падрабязна расказаў аб сутнасці, характары і ходзе перабудовы ў Савецкім Саюзе, аб праблемах, якія прыходзіцца вырашаць, аб цяжкасцях, аб перспектывах, якія адкрываюцца перад савецкім грамадствам у выніку перабудовы.

У ходзе гутаркі былі закрануты таксама іншыя пытанні.

М. С. Гарбачоў і М. Тэтчэр адзначылі, што ў выніку паглыбленага абмену думкамі ёсць узаемаразуменне і блізкасць пазіцый па пытанню аб ліквідацыі ракет сярэдняга радыуса дзеяння ў Еўропе, што яны гатовы давесці да канца перагаворы аб знішчэнні хімічнай зброі, выступаюць за вырашэнне ўсіх праблем, звязаных з неабходнасцю скарачаць звычайныя ўзбраенні і ўзброеныя сілы ў Еўропе.

Гутарка насіла шырокі, шчыры характар, вызначалася канструктыўнасцю, пошукамі рашэнняў на карысць больш бяспечнага свету, падыходаў да супрацоўніцтва.

Субяседнікі выказалі жаданне расшыраць і паглыбляць палітычны дыялог, развіваць больш цесныя адносіны паміж сваімі краінамі.

Яны адзначылі неабходнасць далейшага руху хельсінкскага працэсу ў мэтах будаўніцтва «агульнаеўрапейскага дома», усіх яго бакоў — эканамічных, навуковых, культурных, гуманітарных, уключаючы ўз'ядманне сем'яў і выезды. Усё гэта будзе фарміраваць давер'е і садзейнічаць паляпшэнню міжнародных адносін у цэлым.

У Маскве былі падпісаны пагадненні паміж урадамі СССР і Вялікабрытаніі аб супрацоўніцтве ў галіне вывучэння, даследавання і выкарыстання касмічнай прасторы ў мірных мэтах; пагадненне паміж урадамі двух дзяржаў аб удасканаленні прамой сувязі паміж Крамлём і рэзідэнцыяй Прэм'ер-Міністра Вялікабрытаніі ў Лондане; мемарандум аб узаемаразуменні паміж двума ўрадамі адносна новых напрамкаў супрацоўніцтва ў галіне інфармацыі, культуры і адукацыі, а таксама пагадненне аб узаемным прадастаўленні зямельных участкаў для будаўніцтва новых комплексаў пасольстваў адпаведна ў Маскве і Лондане.

Завяршаючы візіт, Маргарэт Тэтчэр зрабіла паездку ў Тбілісі — сталіцу Грузінскай ССР.

**ЗНАЁМСТВА З ВОПЫТАМ**

## ПА ЗАПРАШЭННЮ ЦК САПГ

У Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы пабывала дэлегацыя з нашай рэспублікі, якую ўзначальваў сакратар ЦК Кампартыі Беларусі М. Дзямянцей. Яна знаходзілася ў ГДР па запрашэнню ЦК САПГ для вывучэння вопыту САПГ у развіцці сельскай гаспадаркі.

Дэлегацыя наведала сельскагаспадарчыя вытворчыя кааператывы, аграпрацоўчыя прадпрыемствы і аграрна-навуковыя ўстановы, дзе азнаёмілася з вопытам усебаковай інтэнсіфікацыі сельскагаспадарчай вытворчасці ў ГДР.

У час візіту былі абмеркаваны перспектывы далейшага расшырэння супрацоўніцтва паміж ГДР і БССР у галіне аграрнай вытворчасці.

**МАНУМЕНТАЛЬНАЕ МАСТАЦТВА**

## ПАЛАТНО ДЛЯ БРЭСТА

Самае вялікае ў рэспубліцы мазаічнае палатно ў тысячу квадратных метраў неўзабаве ўпрыгожыць памежны горад Брэст. Яго стварэнне Мінскі вытворча-мастацкі камбінат даверыў маладым манументалістам Уладзіміру Крываблоцкаму і Юрыю Багушэвічу. Гэта унікальная па памерах і тэхніцы выканання работа будзе змантаравана на будынку Брэсцкага вытворчага аб'яднання сродкаў вылічальнай тэхнікі, які знаходзіцца на цэнтральнай магістралі ля ўезда ў горад.

Аўтары вырашылі стварыць кампазіцыю, якая б яскрава адлюстроўвала гісторыю Брэстчыны і ўсёй нашай краіны. Той факт, што іх работу штодня будуць ацэньваць не толькі жыхары горада, але і замежныя турысты, якія едуць праз Брэст у СССР, накладвае на маладых манументалістаў асаблівую [illegible]азнасць.

Роспіс [illegible]іен быць гатовы да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка.

**У АН БССР**

## НОВЫ НАВУКОВЫ ЦЭНТР

У сістэме Акадэміі навук рэспублікі створаны новы навукова-даследчы цэнтр — Інстытут радыёбіялогіі. Узначаліў яго доктар медыцынскіх навук, член-карэспандэнт АН БССР Яўген Канапля.

Каменціруючы гэты факт, Я. Канапля сказаў, што з развіццём атамнай энергіі, шырокім выкарыстаннем ізатопаў у медыцыне, сельскай гаспадарцы, навукова-даследчай рабоце кантакты людзей з іанізуючымі выпраменьваннямі пастаянна пашыраюцца. Як вынік: павялічылася ўздзеянне на чалавека іанізуючай радыяцыі ў малых дозах на працягу больш доўгага часу. У гэтай сувязі важнае значэнне для медыка-біялагічнай навукі набывае вывучэнне агульных заканамернасцей дзеяння радыяцыі на арганізм чалавека і жывёл. З гэтай мэтай і створана новая навуковая ўстанова.

**НАПЯРЭДАДНІ СЯЎБЫ**

## МЭТА — 100 ЦЭНТНЕРАЎ

Сабраць 100 цэнтнераў збожжа з гектара — запаветная мара кожнага хлебароба. Земляробы калгаса імя Леніна Мазырскага раёна Гомельскай вобласці лічаць гэтую лічбу ў недалёкай будучыні рэальнай. І ўжо сёлета яны паставілі перад сабой мэту сабраць з 225 гектараў яравога поля па 61 цэнтнеру збожжа на круг. А на асобных участках плануецца атрымаць па 100 цэнтнераў.

Як жа збіраюцца рэалізаваць свае планы хлебаробы? У першую чаргу праз поўнае і эфектыўнае выкарыстанне інтэнсіўнай тэхналогіі. Да веснавой сяўбы падрыхтавана першакласнае насенне перспектыўных сартоў, будуць строга вытрымлівацца правілы севазвароту. Ужо цяпер на палях назапашана дастаткова арганічных угнаенняў і падрыхтавана амаль уся сельскагаспадарчая тэхніка.

Але галоўнае, лічаць спецыялісты, трэба навучыць механ[illegible]тарскія кадры правільна працав[illegible] па інтэнсіўнай тэхналогіі. Менавіта з такой мэтай у гаспадарцы з першага снежня мінулага года пачалі праводзіць заняткі з механізатарамі па правілах агратэхнікі. Пасля заканчэння курсу будзе праведзена атэстацыя слухачоў. І тыя, хто добра зас[illegible] праграму, будуць дапушчаны да [illegible]ання веснавых работ па інтэнсіўнай тэхналогіі. Заняткі праводзяць вучоныя Палескай сельскагаспадарчай доследнай станцыі.

**ВЫСТАЎКІ**

## «КАМУНАЛЬНАЯ І БЫТАВАЯ ТЭХНІКА-87»




У крытым манежы спорткомплексу «Стайкі», што пад Мінскам, на працягу дзевяці дзён працавала міжнародная выстаўка «Камунальная і бытавая тэхніка-87». Яе арганізатары — Усесаюзнае аб'яднанне «Экспацэнтр», Гандлёва-прамысловая палата БССР, міністэрствы жыллёва-камунальнай гаспадаркі і бытавога абслугоўвання рэспублікі.

Гэта другая выстаўка падобнага прызначэння, арганізаваная ў нашай рэспубліцы. Першая адбылася ў 1974 годзе. На 2,5 тысячы квадратных метраў выставачных плошчаў былі прадстаўлены больш трыццаці вядомых прамысловых фірм, якія дэманстравалі тэхнічны ўзровень галіны і прадстаўлялі інтарэсы Аўстрыі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, ГДР, Італіі, Іспаніі, Польшчы, ЗША, Фінляндыі, Францыі, ФРГ, Чэхаславакіі, Югаславіі.

На выстаўцы былі паказаны машыны і абсталяванне для прыбірання памяшканняў, тэрыторый, рамонту і асфальтавання вуліц, забеспячэння высокай прадукцыйнасці і якасці працы абутнікоў, швейнікаў, іншых работнікаў камунальнай і бытавой сферы.

У час перагавораў, сімпозіумаў, дыскусій, якія адбыліся на выстаўцы, былі наладжаны дзелавыя кантакты паміж савецкімі арганізацыямі і замежнымі фірмамі. Выстаўка, на думку арганізатараў, паклала пачатак доўгатэрміноваму супрацоўніцтву.

**НА ЗДЫМКУ:** у раздзеле экспазіцыі дарожна-будаўнічых машын прадпрыемства «Бумар» ПНР.

**РЭДКІЯ ПРАФЕСІІ**



**Пра работу Івана Пухоўскага на шклозаводзе «Нёман», што ў Гродзенскай вобласці, гавораць з павагай. Шкло ў яго руках становіцца гнуткім, пластычным, паслухмяным, ператвараючыся ў самыя разнастайныя фігуркі. Не выпадкова яму прысвоена званне «Майстар-мастак».**

**НА ЗДЫМКУ: І. ПУХОЎСКІ за работай.**

**ГАРАДЫ-ПАБРАЦІМЫ**

## МІНСК—НАТЫНГЕМ

Трывалыя сувязі падтрымлівае горад Мінск са сваім англійскім пабрацімам Натынгемам. З кожным годам гэтыя кантакты пашыраюцца.

Нядаўна ў Мінску пабывала група студэнтаў з Натынгемскага універсітэта, якія вывучаюць планаванне прамысловасці, фінансы і бухгалтарскі ўлік. Маладых англічан прымалі студэнты Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі (БДІНГ).

За дзевяць дзён знаходжання ў сталіцы нашай рэспублікі англійскія студэнты не толькі азнаёміліся з яе выдатнымі мясцінамі, але і пабывалі на лекцыях, прынялі ўдзел у дыспутах, вечарах, спартыўных спаборніцтвах, наведалі калгас, прамысловае прадпрыемства, дзіцячы сад і бальніцу.

Гэтым візітам была закладзена аснова далейшага супрацоўніцтва паміж БДІНГ і Натынгемскім універсітэтам. На наступны год плануецца паездка групы мінскіх студэнтаў у Натынгем.

**РЭСТАЎРАЦЫЯ**

## АДКРЫЕЦЦА АРГАННАЯ ЗАЛА

У Пінску пачалася рэстаўрацыя касцёла Карла Барамея — помніка архітэктуры другой паловы XVIII стагоддзя. Аднаўляюць храм спецыялісты мінскіх навукова-рэстаўрацыйных майстэрняў. Пасля завяршэння работ тут будзе адкрыта канцэртная зала арганнай музыкі.

Дададзім яшчэ, што пачатак рэстаўрацыі помніка архітэктуры супаў з важнай падзеяй — 890-годдзем першага пісьмовага ўпамінання пра Пінск.

**ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ**

МІНСК. Першую прадукцыю выпусціў завод эфектыўных жалезабетонных канструкцый. Новае прадпрыемства арыентавана на будаўніцтва сацыяльна-культурных аб'ектаў у жылых мікрараёнах.

БРЭСТ. Мастакі Брэсцкай фабрыкі сувеніраў падрыхтавалі каля ста узораў вырабаў да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка. Многія з іх прызнаны творамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Звыш 400 назваў вырабаў выпускае фабрыка. Яе прадукцыя вядома амаль ва ўсіх гарадах СССР, а таксама ў ЗША, Італіі, Францыі і іншых краінах.

№ 15 (2001), 9 красавіка 1987 г.

# У КАМАРОЎЦЫ, НА РАДЗІМЕ КАСМАНАЎТА







У вядомага беларускага паэта Генадзя Бураўкіна ёсць верш «Пісьмо Пятру Клімуку з заснежанай Камароўкі», які ён прысвяціў свайму другу-касманаўту:

**Панасыпала сёння сумётаў,**
**Аж схаваліся яблынь камлі —**
**Быццам сотня тваіх самалётаў**
**Пракаціла віхор па зямлі,**
**Быццам хмарай пранесліся гусі —**
**Кожны скінуў на вёску пяро...**
**Слава, гонар, любоў Беларусі,**
**Прыязджай на радзіму, Пятро.**

**Гэта можна ўявіць толькі дома —**
**Як заснулі ў палях маразы,**
**Як звіняць заінелыя бомы**
**І пад сонцам блішчаць палазы,**
**Як на белым бяскрайнім абрусе**
**Зіхаціць завірух серабро...**
**Слава, гонар, любоў Беларусі,**
**Прыязджай на радзіму, Пятро.**

Такой, яшчэ заснежанай, але па-вясенняму гаманлівай убачыў Камароўку ў сярэдзіне сакавіка наш фотакарэспандэнт. Тройчы пакідаў зямлю, узнімаючыся ў космас, ураджэнец гэтай вёскі, савецкі касманаўт двойчы Герой Савецкага Саюза Пётр Клімук. Ён аб'ехаў усю нашу вялікую краіну, бываў за яе межамі, але самым родным месцам на зямлі застаўся д[illegible] яго гэты куток Брэстчы. У 1984 годзе ў Зорным гарадку, даючы інтэрв'ю для «Голасу Радзімы», Пётр Ільіч расказваў, што дома бывае штогод і не адзін раз. Пры кожнай нагодзе з жонкай і сынам стараецца завітаць у Камароўку, праведаць маці Марфу Паўлаўну, сустрэцца з сёстрамі, землякамі.

У будучага касманаўта ўжо ў школе былі добрыя настаўнікі. І, напэўна, у тым, што, адпраўляючыся ў космас, Пётр Клімук узяў з сабой томік вершаў свайго любімага паэта Якуба Коласа, «вінавата» настаўніца Ларыса Сідарук. Яна выкладала ў Камароўскай школе беларускую мову і літаратуру, вучыла свайго вучня любіць, разумець, шанаваць роднае слова. Яе дома, як і дома былога дырэктара школы Мікалая Панасюка, ніколі не мінае Пётр Клімук, прыязджаючы ў вёску. А Данута Хрушч, аднакласніца касманаўта, цяпер таксама настаўніца, расказвае, якія цікавыя сустрэчы адбываюцца ў школе, калі збіраюцца былыя вучні Камароўскай школы, што вучыліся разам з Пятром Клімуком. Ёсць сярод іх і настаўнікі, і ўрачы, і іншыя патрэбныя краіне спецыялісты, але самы славуты сярод іх, канешне, касманаўт Пётр Клімук. Пра Камароўку ён гаворыць з замілаваннем, калі згадвае сцежкі дзяцінства, твар асвятляецца добрай усмешкай. Многае засталося тут некранутым — лес за вёскай, рэчка, стаўкі і старыя дрэвы над імі, дзе, як і раней, любіць збірацца моладзь. А сама вёска мяняецца. На новай вуліцы выраслі каменныя катэджы. У адным з іх жыве маці касманаўта Марфа Паўлаўна. У цэнтры вёскі гандлёвы цэнтр з рэстаранам «Космас». Мусіць, не выпадк[illegible] [illegible]алі яму такую назву. [illegible]а Камароўка, дзякуючы свайму славутаму земляку, так ці інакш мае «дачыненне» да космасу. Гэта пацвярджае і школьны музей, дзе сабраны матэрыялы аб развіцці касманаўтыкі ў нашай краіне, асабістыя рэчы і нават скафандр Пятра Клімука.

**НА ЗДЫМКАХ: новыя дамы ў Камароўцы; гэты маляўнічы куток за вёскай любіў Пётр Клімук; у школьным музеі; былы дырэктар школы Мікалай ПАНАСЮК з настаўніцамі Данутай ХРУШЧ і Ларысай СІДАРУК; вясенняе гулянне. Народны хор калгаса імя Дзяржынскага, у склад якога ўваходзіць і вёска Камароўка.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**





**БССР — ПНР: АБМЕН ТАВАРАМІ**

# СУПРАЦОЎНІЦТВА СУСЕДЗЯЎ

У Брэсце прайшла выстаўка. Савецкія і польскія арганізацыі і фірмы прадстаўлялі на ёй свае тавары масавага попыту, прыкладна каля трох тысяч узораў. Для ўдзелу ў выстаўцы прыбыла група сакратароў ваяводскіх камітэтаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі, дэлегацыя міністэрства ўнутранага гандлю і паслуг на чале з намеснікам міністра Анджэем Маліноўскім, прадстаўнікі фірм «Торымекс», «Сполэм», «БОМіС», «РЭМЭКС», «Полькаап» і іншых. На дзелавыя перагаворы з імі прыехалі работнікі міністэрстваў і ведамстваў пяці суседніх рэспублік СССР. Так быў пакладзены пачатак новаму этапу эканамічнага супрацоўніцтва паміж рэгіянальным Каардынацыйным саветам па таварах народнага спажывання рэспублік Прыбалтыкі, Беларусі і Малдавіі і краінамі—членамі Савета Эканамічнай Узаемадапамогі.

Каардынацыйны савет існуе ўжо не адзін год, і створаны ён быў для вырашэння выключна ўнутраных праблем: сіламі гандлёвых арганізацый і прамысловасці пяці рэспублік рэгіёна палепшыць забеспячэнне насельніцтва якаснымі таварамі. А ў 1984 годзе ў складзе савета ўтворана секцыя па знешнеэканамічных сувязях з краінамі—членамі СЭУ. Калегі з Польшчы, як самыя блізкія суседзі, першымі адгукнуліся на прапанову правесці сумесную выстаўку. Месцам сустрэчы выбралі прыгранічны горад Брэст.

У Брэсце былі абмеркаваны вузлавыя пытанні прамога супрацоўніцтва паміж міністэрствамі мясцовай прамысловасці пяці нашых рэспублік і фірмамі ПНР. Партнёры абмяняліся пералікам тавараў для падрыхтоўкі і афармлення пагадненняў.

На сустрэчы ў Брэсце ішла таксама размова пра стварэнне сумесных прадпрыемстваў. Гэта прынцыпова новы момант у супрацоўніцтве БССР і ПНР. Былі абмеркаваны магчымасці сумеснай вытворчасці фурнітуры для лёгкай і мэблевай прамысловасці, выпуску люстэркавых вырабаў (з ПНР—розныя віды апраў, а з БССР — гатовая прадукцыя). Абодва бакі выказалі пажаданні наладзіць у будучыні сумесную распрацоўку і выпуск новых відаў бытавых вырабаў.

Перспектыўнай формай абмену таварамі былі прызнаны прамыя сувязі паміж магазінамі. Гэта ўжо прайшло эксперыментальную праверку. З 1985 года мінскі універмаг «Беларусь» і універмаг у польскім горадзе Седльцэ рэгулярна абменьваюцца таварамі. Вырашана наладзіць падобны абмен паміж іншымі буйнымі магазінамі. Напрыклад, мінскія ГУМ і ЦУМ стануць партнёрамі універмагаў Познані і Варшавы, Брэст будзе кантактаваць з Люблінам. На чарзе іншыя гарады нашай рэспублікі і Польшчы.

Ёсць таксама рэзервы пашырэння прыгранічнага гандлю. Пакуль толькі тры вобласці Беларусі займаюцца гэтым: Брэсцкая, Гродзенская і Магілёўская гандлююць адпаведна з Белападляскім, Беластоцкім і Вроцлаўскім ваяводствамі. Абодва бакі пагадзіліся, што гэтага недастаткова. Мяркуецца наладзіць гандаль паміж іншымі абласцямі і ваяводствамі.

Такім чынам, традыцыйна сяброўскія кантакты нашай рэспублікі і Польшчы атрымліваюць новы імпульс.

**Л. ТУГАРЫН.**

ГЛАВНОЕ УСЛОВИЕ УСПЕШНОГО РЕШЕНИЯ ПРОБЛЕМЫ ОХРАНЫ ОКРУЖАЮЩЕЙ СРЕДЫ И РАЗВИТИЯ

# ЭКОЛОГИЯ И ПОЛИТИКА

Изучение комплекса глобальных проблем давно привело к осознанию их неразрывной связи и зависимости друг от друга. Распутать весь этот клубок можно только начав с решения проблемы предотвращения термоядерной войны и, более широко, сокращения гонки вооружений, а в перспективе и исключения всякой военной деятельности из жизни общества.

Еще 10 лет назад последствия ядерной войны были более или менее правдоподобными гипотезами. Сегодня они стали точным научным знанием. Исследования, проведенные за последние годы как за рубежом, так и в Советском Союзе, позволяют наглядно представить всю катастрофичность этих последствий. Они рисуют мрачную, но документально достоверную картину планеты после атомной войны — планеты, скованной морозами «ядерной зимы», покрытой мраком «ядерной ночи». Язык математических моделей неопровержим. Он говорит о том, что даже обмен ядерными ударами по крупнейшим городам приведет к образованию гигантских пожаров и сажевых облаков, которые сольются в единое облако, и оно непроницаемым черным одеялом окутает Землю. Под этим одеялом задохнется все живое.

Надо иметь в виду, что при этом оцениваются по существу только явные и непосредственные последствия, такие как эффект от ударной волны, проникающей радиации, пожаров. Но ведь есть и скрытые, неизвестные, а потому и непредсказуемые последствия, связанные, например, с распространением новых опасных болезней.

В современных условиях для человечества катастрофична не только действительная война, но и подготовка к ней. Мировая статистика свидетельствует о том, что гонка как ядерных, так и обычных вооружений «съедает» значительную часть мировых природных и человеческих ресурсов, которые могли бы быть направлены на благо мирового сообщества, на решение таких глобальных проблем, как обеспечение продовольствием, развитие новых энергетических источников, искоренение болезней, сохранение природной среды и др.

По мнению экспертов ООН, сокращение общих военных расходов на 20 процентов создало бы объективные основы для позитивного разрешения многих глобальных проблем.

Проповедники и идеологи войны многолики. Одни из них, в большинстве своем именующие себя «учеными», продолжают традицию, которая уже давно сложилась во всякого рода фаталистических и пессимистических концепциях о «неизбежности» войн, поскольку-де они вытекают из агрессивной «природы человека», являются следствием «невежества» широких масс, их «склонности» к насилию и фанатизму. Многие из этих концепций, как мы знаем, были практически «испытаны» фашизмом, развязавшим вторую мировую войну, и результат всего этого известен. Консервативные концепции войн дополняются «либеральными» и даже «критическими». Прикрываясь мифом о «советской угрозе», сторонники этого направления, отмечая агрессивные черты, присущие империализму, делают, однако, выводы антикоммунистического и антисоветского характера.

Есть «теоретики», рассматривающие мировую термоядерную войну как «радикальное решение» тяжелого бремени мировых проблем, как своеобразный «очистительный всемирный потоп».

Проблема предотвращения войны — лишь звено, хотя и ключевое, в комплексе глобальных проблем, а потому только в общем их контексте она может быть по-настоящему увидена и оценена. Если подходить с этой позиции, то становится ясной несостоятельность приведенных концепций. Так, в «теории равновесия страха» главной движущей силой динамичной ядерной среды, определяющей военную доктрину, считается быстро прогрессирующая технология. Очевидно, однако, что при всей важности технико-технологических аспектов проблемы войны и мира решающими здесь являются социальные факторы. Техника, технологические средства войны сами по себе, по мере их роста могут лишь подталкивать такие социальные решения, которые исключали бы войну из жизни общества. И это связано с возрастающими масштабами угрозы для человечества применения технических средств войны: с течением времени они достигают **абсолютных** пределов, то есть, собственно говоря, их применение уже не может быть **средством** войны, а попросту — **гибели всего человечества.**

Для решения проблемы войны и мира, а другими словами, для решения комплекса глобальных проблем, и проблема предотвращения войны занимает пусть и ключевое, но все же вполне конкретное и ограниченное место, необходим системный подход. Но системный в широком смысле слова, не ограничивающийся только сферой науки. Чтобы успешно продвигаться в решении глобальных проблем, нужно развивать новый способ мышления, новые моральные и ценностные критерии и, конечно, новые нормы поведения. Реально это новое мышление проявляется прежде всего в той глобальной мирной стратегии, которая была разработана XXVII съездом КПСС, находит постоянное углубление и развитие в выступлениях советских руководителей, руководителей других социалистических стран. Подчеркну, что идеи, составляющие глобальную мирную стратегию, новое мышление и политическую психологию, выкристаллизовываются лишь в общем контексте насущных и будущих забот человечества по обеспечению мирного развития, преодолению отсталости, голода и нищеты, сохранению природы и др.

Ростки этого нового мышления прорастают, особенно на европейской ниве. В частности, это проявилось в успехе стокгольмской конференции.

Социализм и война несовместимы в принципе, а тем более когда речь идет о ракетно-ядерной войне, грозящей человечеству всеобщим уничтожением.

Для полного устранения угрозы ядерной войны страны социалистического содружества предлагают, в частности, многочисленные инициативы в ООН. В 1986 году государства Варшавского Договора внесли на рассмотрение крупную комплексную программу о масштабном сокращении обычных вооружений и вооруженных сил в Европе.

Мирная стратегия, осуществляемая социалистическими странами, может иметь успех только при активном участии всех народов и государств, независимо от того, в какой части света они расположены, к какой социально-экономической системе принадлежат, какими мировоззренческими или философскими идеями вдохновляются. Именно поэтому советские предложения в области разоружения адресуются всем. Как сказал М. С. Горбачев на пресс-конференции после встречи в Рейкьявике, «все реалистические силы в мире должны сейчас действовать. Все живущие на Земле — в социалистическом мире, в капиталистическом мире, в развивающемся мире — имеют сейчас уникальный шанс — наконец реально взяться за прекращение гонки вооружений, запретить ядерное оружие, уничтожить его и отвести от человечества ядерную угрозу». Необходимо международное сотрудничество, чтобы сохранить мир на Земле.

Сейчас предпринимается многое для научно-технологического и практического решения экологической проблемы, но все усилия в этой области могут свестись на нет в результате угрозы термоядерной катастрофы, которая привела бы к гибели не только человечества, но и всего живого на Земле. Поэтому сегодня все очевиднее становятся взаимосвязь экологии и политики не только в национальных, но и глобальных масштабах, социальный смысл и значение борьбы за чистую биосферу на Земле. Большое значение имеет подписание в Женеве представителями 33 стран, в том числе СССР и США, конвенции о запрещении военного или любого враждебного использования средств воздействия на природную среду. Более ощутимым оказывается влияние на мировую политику различного рода экологических общественных движений. Среди них возрастающее значение приобретает новое движение экологов за мир, которое сформировалось на основе постоянной международной конференции (экофорума), организованной журналом «Охрана природы» (НРБ, София). В августе 1986 года в Варне (НРБ) состоялась международная конференция «Охрана окружающей среды и защита всеобщего мира», на которой были рассмотрены экологические императивы мира и вопросы, связанные с ответственностью ученых за охрану природы и мира на Земле.

«Экофорум за мир» стал важной вехой в утверждении нового мышления, необходимого в ядерный век всем людям, всем государствам, всему человечеству. Человечество стоит в начале нового этапа своего развития. Речь идет уже не только о росте его материальной и научно-технической базы, но — и это главное — о необходимости формирования в психологии людей новых ценностных и гуманистических устремлений, ибо разум и гуманность выступают в качестве тех «вечных истин», которые лежат в основе жизни человеческого рода. Нужны новые социальные, нравственные, научные и экологические концепции, которые должны определяться новыми условиями существования человечества сегодня и в будущем.

Еще одна важная особенность двуединого антивоенного и экологического движения, отличие его от других — это то, что оно выходит за границы специальных наук и отдельных социальных групп, дает экологии силу действия, включает ее в решение острейших общественно - политических проблем современного мира, ставит перед каждым ученым, перед каждым человеком вопрос о его ответственности за судьбу жизни на Земле.

**Иван ФРОЛОВ,**
**член-корреспондент АН СССР.**
(АПН).

## АКАДЕМИК СЕРГЕЙ КОРОЛЕВ И ИДЕЯ СОЗДАНИЯ ОРБИТАЛЬНЫХ КОМПЛЕКСОВ

# СВЕРХУ ВИДНО ЛУЧШЕ

Без малого тридцать лет назад академик **Сергей Королев**, имея в виду предстоящий полет человека в космос, писал: «За первыми полетами туда последует создание на орбите около Земли постоянной орбитальной обитаемой станции, где научные сотрудники будут систематически вести разносторонние наблюдения, проводить опыты на высоте сотен километров над Землей».

И они появились, станции-долгожительницы, годами летающие вокруг Земли. Меняются экипажи, идет череда экспериментов, появились принципиально новые направления научно-технической деятельности, в частности технология невесомости. Сейчас в электронике достигнуты очень высокие плотности упаковки элементов: на одной пластинке размером сантиметр на сантиметр размещают до сотни тысяч «деталей», в ближайшее время один кристалл вместит уже миллион элементов. Но кристалл этот должен быть идеальным. На Земле получить такой кристалл мешает конвекция — тепловое перемешивание расплава. В невесомости конвекции нет, кристаллы должны получаться значительно лучше. Это было уже доказано на установках «Сплав», «Кристалл», работавших на «Салютах», ныне более совершенные установки имеются и на новой орбитальной станции «Мир».

Экономически весьма эффективным оказалось и фотографирование из космоса поверхности Земли, особенно труднодоступных районов. Считается, что стоимость съемки поверхности площадью в один квадратный километр из космоса в 20 раз дешевле, чем с самолета. Многие специалисты считают, что уже в ближайшем будущем серьезной статьей доходов, получаемых из космоса, станет информация с «сельскохозяйственных спутников». Они станут вести оперативный контроль за состоянием лесов и полей, влажностью земли, созреванием посевов. Методика подобного контроля уже проверялась на пилотируемых орбитальных станциях и доказала свою эффективность. Проиллюстрировать это можно хотя бы таким курьезным случаем. В одной из советских Среднеазиатских республик предполагалось расширить посевные площади. Космические снимки показали, что делать это нецелесообразно, поскольку в данном районе нужно будет вкладывать очень большие средства на орошение. «Ничего подобного, — возразили представители сельского хозяйства. — У нас есть пробы, полученные от местных жителей, они показывают — влаги вполне достаточно для посевов». Пришлось на место выехать специалисту по космическому природопользованию. И тут выяснилось, что пробы действительно вполне удовлетворительные, но брали их местные жители поблизости от поселка, где земли увлажняются поливом, а чуть дальше — сушь. Казалось бы, парадокс: из космоса видно лучше, чем вблизи.

Но этот парадокс хорошо известен геологам. При взгляде с высоты хорошо просматриваются глубинные геологические структуры, проступающие из-под чехла верхних осадочных отложений. С помощью космических снимков составлены карты страны, содержащие глубинные разломы и кольцевые структуры. Они подсказывают геологам районы поиска полезных ископаемых.

И еще одна область применения космических средств, приобретающая все большую актуальность, — охрана биосферы, контроль за загрязнениями. Такие работы, в частности, ведутся в некоторых учреждениях Госкомгидромета СССР. Расшифровывая по специальной методике космические снимки, специалисты могут определять, скажем, наиболее загрязненные районы города, подавленные промышленными выбросами леса и поля, степень распространения дымов. Что очень важно — регулярные наблюдения этих явлений позволяют выявить их динамику. Полагают, что на данном этапе открываются реальные перспективы для создания космического мониторинга — крупномасштабной системы слежения за состоянием биосферы.

Практическая космонавтика, основоположником которой по праву считается Сергей Королев, прошла огромный путь. Намеченные им идеи воплощаются и в наши дни. В одной из его записных книжек написано: «Надо бы начать разработку «Оранжереи по Циолковскому» (ОР) с наращиваемыми постепенно звеньями или блоками...»

Спустя двадцать с лишним лет после этого вышла на орбиту станция «Мир», оснащенная шестью стыковочными узлами. Она позволяет осуществить модульный принцип создания крупных «космических НИИ». К двум стыковочным узлам могут причаливать пассажирские и грузовые корабли, а четыре остальных предназначены для модулей самого различного назначения. Один, например, может быть целиком оборудован астрофизической аппаратурой. Такой блок, кстати, готов и скоро отправится на орбиту, он предназначен для фундаментальных исследований. Другие же модули, а по сути цехи, могут иметь прикладное предназначение, скажем, для производства уникальных материалов или лекарств.

По завершении какого-то цикла работ от орбитального комплекса можно отстыковать один модуль и на его место принять другой. Таким образом многие годы можно оснащать станцию самым современным оборудованием, гибко менять программу исследований или производственные планы.

**Герман КОНСТАНТИНОВ**

*МАСТАЦТВА БЯРЭ СВАЮ СІЛУ Ў НАРОДЗЕ*

# АПЕЎ І ЎСЛАВІЎ РОДНЫ КРАЙ

*ДА 115-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ В. БЯЛЫНІЦКАГА-БІРУЛІ*



**Калі я даведаўся, што няма Вашых карцін, я вельмі засумаваў па Вас, я гэтак прывык асвяжацца душой перад Вашымі жывымі павевамі праўды, прастаты і свабоды.**

*З ліста І. Рэпіна. 1910 г.*

Творчы лёс Вітольда Бялыніцкага-Бірулі склаўся надзвычай шчасліва. Прырода надзяліла яго самабытным талентам, а бацькі — працавітасцю і добрым здароўем. Яму моцна пашанцавала на добрых і чулых душою людзей, якія адразу распазналі і падтрымалі малады талент. І ўсё ж у яго жыцці быў момант, калі ён ледзь не размінуўся з мастацтвам. Бацька, як кажуць, спаў і бачыў свайго сына афіцэрам. Прэстыжная для шляхецкага нашчадка прафесія, някепска забяспечанае пры пэўнай ашчаднасці жыццё, а калі яшчэ і па службе пойдзе ўсё гладка, глядзі, гадоў пад сорак заззяюць на плячах генеральскія эпалеты. Многія выхадцы з Усходняй Беларусі, у тым ліку матчыны шваграі і брат, мелі ў рускай арміі даволі высокія чыны, і гэта жывіла патаемныя надзеі бацькоў.

Але, нягледзячы на тое, што сын «прамяняў» шпагу на пэндзаль, бацькава мара ўсё ж такі спраўнілася, праўда, з істотнай папраўкай лёсу. Вітольд сапраўды дасягнуў найвышэйшага становішча, але зусім у іншым «ведамстве». Мастацкім. Тройчы акадэмік, двойчы народны мастак, заслужаны дзеяч мастацтва, уладальнік залатых медалёў айчынных і замежных выставак і конкурсаў, ардэнаносец...

Нарадзіўся Вітольд Каятанавіч 29 лютага 1872 года па старому стылю ў невялічкім маёнтку Крынкі пад Бялынічамі (цяпер раённы цэнтр Магілёўскай вобласці), які не забяспечваў сям'ю самым неабходным. Бацьку даводзілася нават браць у арэнду зямлю, але без даўгоў звязаць канцы з канцамі ўдавалася рэдка. А дзеці раслі, трэба было дбаць пра іх будучыню, вучобу. Зняверыўшыся ў зямлі, бацька прадае маёнтак і шукае іншае выйсце з хранічнай нястачы. Некалькі гадоў служыць у Арле на папяровай фабрыцы Шарамецьевых, затым у Кіеўскім параходстве. Так малы Віця, як яго звалі ў сям'і, апынуўся ў Кіеве.

Першапачатковую адукацыю хлопчык набыў дома з дапамогай стрыечнага брата бацькі, выкладчыка Віцебскай мужчынскай гімназіі. Але хатніх ведаў аказалася недастаткова для паступлення ў Вайсковую гімназію, і ён дзве зімы наведвае падрыхтоўчую школу, якую трымаў адстаўны вайсковец Лунд. Але ў гімназістах хадзіў нядоўга. У 1882 годзе вайсковыя гімназіі былі пераўтвораны ў кадэцкія карпусы, сярэднія вайсковыя навучальныя ўстановы з сямігадовым курсам навучання, якія павінны былі «даць прызначаным да вайсковай службы ў афіцэрскім званні... агульную адукацыю і адпаведнае іх будучыні выхаванне».

Паэтычнай натуры падлетка было цесна ў кадэцкім шынялі. Рука сама цягнулася да алоўка, з якім ён пасябраваў з шасцігадовага ўзросту. «Як сябе памятаю, — успамінаў пазней мастак, — я заўсёды імкнуўся штосьці маляваць на паперы каляровымі алоўкамі». У вольны ад заняткаў час юны кадэт займаецца «капіраваннем з розных рэпрадукцый, што прыкладаліся ў якасці дадатку да часопіса «Нива». Зрэдку тут сустракаліся ілюстрацыі беларускіх мастакоў. Тады перад вачыма ўсплывалі краявіды родных мясцін пад Бялынічамі і Бешанковічамі, дзе ў маёнтку дзеда «Быстрэя» ён жыў, калі бацька служыў у Арле. Сюды ён імкнуўся ўсім сэрцам і кожнае лета прыязджаў на канікулы з Кіева, а пазней і з Масквы. Тут ён са стрэльбай і альбомам у ягдташы хадзіў па лесе, сядзеў ля ракі, слухаў ля зыркага вогнішча старых паляўнічых.

І ніхто гэтак, як старэйшы брат Аляксандр, не адчуваў таго разладу, што спакваля наспяваў у душы Вітольда. Ён першы, нават раней за бацькоў, зразумеў, што за захапленнем брата маляваннем крыецца вялікі талент. Будучы інжынер-чыгуначнік праз знаёмых сустракаецца з украінскім мастаком-пейзажыстам прафесарам У. Арлоўскім і па яго настойлівай парадзе уладкоўвае Вітольда на нядзельныя ўрокі ў мастацкую школу таленавітага мастака М. Мурашкі, дзе, між іншым, якраз у гэты час вучыўся вядомы пазней беларускі мастак-партрэтыст Я. Кругер.

За чатыры зімы Вітольд атрымаў у М. Мурашкі трывалыя асновы і навыкі жывапісу. Пасля сканчэння корпусу перад ім паўстала праблема выбару: пайсці ў вайсковае ці мастацкае вучылішча? Душа рвалася да жывапісу, але юнак вагаўся. Больш за ўсё стрымлівала няўпэўненасць у сваіх сілах, боязь пераацаніць свае творчыя магчымасці. Але ў яго лёс зноў умяшаўся старэйшы брат. Аляксандр паказаў вучнёўскія малюнкі Вітольда агульнапрызнанаму ў мастацтве аўтарытэту І. Пранішнікаву. Таму дастаткова было кінуць беглы позірк, каб пераканаца ў несумненнай таленавітасці іх аўтара.

За гады навучання ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства (1889—1897) юнак атрымаў не толькі выдатную прафесійную падрыхтоўку, але і знайшоў сваё месца ў мастацтве, сфарміраваўся ў сталага мастака-пейзажыста.

Таленты раскрываюцца і ўваходзяць у сілу па-рознаму. В. Бялыніцкі-Біруля заявіў аб сабе з нечаканай раптоўнасцю вулканічнага выбуху. Першую і неспадзяваную вядомасць прынесла яму карціна «З ваколіц Пяцігорска» (1892 год), якая і экспанавалася ўсяго толькі на вучнёўскай выстаўцы вучылішча. Напісаная з тонкім густам, яна прыкметна вылучалася сярод іншых работ навучэнцаў і звяртала на сябе ўвагу непасрэднасцю адчування прыроды, чысцінёй фарбаў і мяккім задушэўным лірызмам. Набыццё карціны невядомага пачаткоўца самім Траццяковым, а гэта расцэньвалася як бясспрэчнае прызнанне, выклікала на выстаўцы сапраўдны фурор. А калі стала вядома, што заснавальнік сусветна вядомай Траццякоўскай галерэі самахоць заплаціў падвойную цану і змясціў карціну не ў запасніку, а ў экспазіцыі сярод твораў вялікіх мастакоў, да Бялыніцкага-Бірулі пачалі прыглядацца іншыя маскоўскія аматары мастацтва.

Малады пейзажыст хутка набывае вядомасць. На выстаўцы Маскоўскага таварыства аматараў мастацтваў 1899 года В. Бялыніцкі-Біруля за карціну «Вясна ідзе» атрымлівае па раздзелу пейзажа Першую Боткінскую прэмію. Праз два гады на Каўказскай юбілейнай выстаўцы (1901 год) яго карціна «Спрадвечныя снягі» адзначаецца залатым медалём. Работы нашага земляка адну за другой набываюць Музей Акадэміі мастацтваў, Таварыства Куінджы, Рускі музей, Траццякоўская галерэя. А гэта ўжо несумненны поспех.

У 1908 годзе В. Бялыніцкаму-Бірулі надаецца званне акадэміка жывапісу. У 1911 годзе карціны «Час цішыні» ў Мюнхене і «Зімовы сон» на Міжнароднай выстаўцы ў Барселоне адзначаюцца залатымі медалямі.

У XX стагоддзе наш зямляк уваходзіць упэўненым крокам прызнанага майстра-пейзажыста. Яго работы, прасякнутыя задумлівым лірызмам і светлай радасцю быцця, выклікаюць роздум, адчуванне еднасці з прыродай. Па аднадушнай думцы мастацтвазнаўцаў, яны беспамылкова адрозніваюцца ад карцін іншых мастакоў таго ж жанру. Перш за ўсё — адухоўленасцю прыроды і нейкай няўлоўнай здольнасцю заўважаць і ўзнаўляць імгненні прыроды, тыя яе пераходныя моманты, што амаль непрыкметна пераліваюцца адзін у другі. У гэтых аднасінах асабліва паказальны створаны мастаком вобраз вясны, якую ён паказаў амаль у 200 палотнах, а ў назвах 120 карцін выкарыстаў слова «вясна».

Сваю любоў да вясны мастак пранёс праз усё жыццё. Упершыню яе вобраз ён стварыў у карціне «Ранняя вясна» (1894 год). Першую сваю прэмію атрымаў за пейзаж «Вясна ідзе» ў 1899 годзе. Апошнім і адзіным палатном, напісаным ім у год смерці (1957) была карціна з такой жа назвай «Вясна ідзе». Мастак дасканала валодаў зайздроснай здольнасцю перадаваць ледзьве прыкметныя адценні і змяненні, якія адбываліся ў прыродзе нават на працягу сутак, і пры гэтым ніколі не паўтараўся. Багата распрацаваная танальная гама ўласцівых яго таленту жывапісных сродкаў дазваляла кожны раз знаходзіць новыя каларыстычныя і кампазіцыйныя рашэнні.

Любіць і разумець прыроду, напіша пазней В. Бялыніцкі-Біруля ў сваіх неапублікаваных успамінах, яго навучылі беларускія сяляне-паляўнічыя. Сіла і свежасць першых уражанняў, што пацвярджалі многія дзеячы мастацтва, жывяць творчасць усё жыццё. На схіле доўгай жыццёвай дарогі аслабелая і ўжо не зусім паслухмяная рука мастака пакіне на паперы словы апошняй шчырай удзячнасці зямлі, сынам якой ён заўжды лічыў сябе: «Гэта было найвялікшай радасцю і шчасцем майго дзяцінства, дзе я спазнаў ні з чым непараўнальную прыгажосць Роднай Беларусі».

Вядомасць і слава ніколькі не змянілі мастака. Праўда, з'явіліся справы, якія часам не мелі нічога агульнага з мастацтвам. Каб пазбавіцца гарадскога тлуму, мастак знаходзіць на выспе возера Удомля Цвярской губерні (цяпер Калінінская вобласць) глухі куточак некранутай прыроды і перасяляецца жыць на пабудаваную тут дачу «Чайка». У адзіноце, сярод вады і лесу, працавалася радасна і лёгка, бо, як ён пісаў, «прырода абуджае ў чалавеку разнастайныя па характару пачуцці і перажыванні». Без іх няма мастака, тым больш пейзажыста. Тут падоўгу жылі і пісалі сябры В. Бялыніцкага-Бірулі: М. Багданаў-Бельскі, С. Жукоўскі, М. Касаткін, А. Мараваў, А. Сцяпанаў і іншыя. Тут І. Левітан напісаў сваю вядомую карціну «Над вечным спакоем». Тут у творчай атмасферы, якая панавала на дачы, у А. Чэхава ўпершыню ўзнікла задума п'есы «Чайка». Пазней сюды прыязджалі адпачыць і папаляваць М. Калінін, М. Фрунзе, Г. Кржыжаноўскі, К. Варашылаў, Я. Рудзутак.

Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю В. Бялыніцкі-Біруля сустрэў гэтак жа, як кожны чалавек, які шчыра любіў народ і жадаў яму лепшай долі. Усеагульны ўздым першых рэвалюцыйных гадоў уцягвае яго ў актыўную грамадскую і культурна-асветную работу. Ён сумесна з А. Сцяпанавым піша па заказу Рэўваенсавета гісторыка-дакументальную карціну «Напярэдадні Кастрычніка. Цвярскі бульвар паблізу Нікіцкіх варот».

У 1919—1920 гадах В. Бялыніцкі-Біруля працуе мастаком-афарміцелем у маскоўскіх клубах, арганізуе на дачы «Чайка» выстаўку карцін перасоўнікаў, а затым мастацкую школу для дзяцей сялян навакольных вёсак.

В. Бялыніцкі-Біруля імкнецца наблізіць культуру да народа, стварае некалькі агульнаадукацыйных школ у Цвярской губерні, а ў вёсцы Сігава Маскоўскай губерні—працоўную школу з мастацкім ухілам, дзе дзеці поруч з рамёствамі асвойвалі асновы мастацтва, вучыліся коўцы па металу, разьбе па дрэву. У школе разам з Бялыніцкім-Бірулем працавалі яго сябры па мастацтву А. Мораваў, А. Архіпаў, І. Грабар і іншыя.

У першыя гады пасля рэвалюцыі ўзнікаюць розныя дэкадэнцкія групоўкі, якія пад покрывам гучных рэвалюцыйных фраз і лозунгаў прапагандавалі чужыя народу погляды суб'ектыўскага ідэалізму. Усёй сваёй творчасцю Бялыніцкі-Біруля паўстае супраць засілля фармалізму і ў ліку трынаццаці мастакоў, што актыўна выступалі за развіццё рэалістычнага мастацтва, заснаваў Асацыяцыю мастакоў рэвалюцыйнай Расіі (АМРР).

І пасля рэвалюцыі асноўным жанрам мастака застаецца пейзаж. Але пад уздзеяннем сацыялістычных пераўтварэнняў змест многіх яго работ тэматычна ўзбагачаецца новымі сюжэтамі і матывамі. У выніку шматлікіх паездак па краіне піша нямала «індустрыяльных і сельскагаспадарчых пейзажаў», многія з якіх экспанаваліся на выстаўцы «Індустрыя сацыялізму». Бялыніцкі-Біруля многа зрабіў для стварэння новага віду тэматычнага пейзажа, звязанага з памятнымі мясцінамі славутых людзей. Мемарыяльны пейзаж у яго творчасці шырока прадстаўлены талстоўскай і пушкінскай серыямі карцін.

Адметнае месца ва ўсёй творчасці мастака займае ленінская тэма. Адразу ж пасля смерці Леніна ён стварае шэраг карцін, у якіх увекавечыў мясціны, звязаныя з апошнімі днямі жыцця правадыра. У 1945 годзе вяртаецца да ленініяны і на адным дыханні піша 22 карціны і эцюды, прысвечаныя Горкам.

Саракагоддзе творчай дзейнасці Бялыніцкага-Бірулі шырока адзначалася грамадскасцю ў 1937 годзе. З гэтай нагоды была адкрыта персанальная выстаўка мастака. У наступным годзе ён быў ушанаваны званнем заслужанага дзеяча мастацтва РСФСР.

Аднак душой і сэрцам мастак застаецца пейзажыстам і ў 1940 годзе стварае выключныя па свайму лірызму творы: «Вечар юнага мая», «У час цішыні», «Зацвіла лотаць».

У 1947 годзе спаўняецца даўняя мара мастака—ён едзе на радзіму. Сямідзесяцігадовы мастак, убачыўшы родны край, адчуў сябе маладым: «Мне з яшчэ большым запалам хочацца перанесці на палатно цудоўнае аблічча краіны, якая аднаўляецца... Калі мне давядзецца адлюстраваць на палатне адраджэнне зямлі, паказаць выключную працавітасць беларускіх калгаснікаў, я буду лічыць сябе задаволеным і шчаслівым». На радзіме Бялыніцкі-Біруля працуе не пакладаючы рук і за кароткі тэрмін стварае 29 эцюдаў і карцін, у тым ліку такія шэдэўры, як «Беларусь. Зноў зацвіла вясна», «Зялёны май» і «Зазелянелі беларускія бярозкі».

У 1948 годзе мастак зноў у Мінску. Калі на трыбуну з'езда мастакоў Беларусі падняўся В. Бялыніцкі-Біруля, стала ціха, затым зала ўзарвалася громам апладысментаў. Перад землякамі паўстала жывая гісторыя мастацтва, чалавек, які ўвасабляў сабою жывую повязь пакаленняў. Чалавек, які шмат каму з прысутных уяўляўся міфам, легендай. Патрыярх беларускага жывапісу пачаў сваю прамову, якая, па сутнасці, была запаветам, са слоў: «Дарагія землякі і суайчыннікі»... Ён гаварыў пра мастацтва, пра ролю і адказнасць мастака перад народам, краінай. Мастацтва бярэ сваю сілу ў народзе, яно служыць народу,—гэтая думка праходзіла цераз усё выступленне Бялыніцкага-Бірулі, была яго лейтматывам,—а калі мастацтва адрываецца ад роднай глебы, ад лепшых нацыянальных традыцый, яно непазбежна нясе на сабе адбітак агіднейшага касмапалітызму.

У 1957 годзе на 86-м годзе жыцця перастала біцца сэрца вялікага мастака. Але ён жыве ў сваёй творчай спадчыне, якая налічвае больш за 1 000 карцін і эцюдаў. Творы нашага славутага земляка экспануюцца ў музеях Далёкага Усходу і Таджыкістана, Цюмені і Пінска. Памяць аб В. Бялыніцкім-Бірулі беражліва захоўваецца на Беларусі. На радзіме, у Бялынічах, каля мастацкага музея яго імя, устаноўлены бронзавы бюст работы беларускага скульптара А. Арцімовіча, у Магілёве ў 1982 годзе адкрыты другі мемарыяльны музей мастака—Мастацкі музей імя Бялыніцкага-Бірулі, карціны мастака экспануюцца ў музеях многіх гарадоў рэспублікі. Іх не забываюць і ведаюць на Бацькаўшчыне.

**Станіслаў ЦЯРОХІН.**

**НА ЗДЫМКУ: Вітольд БЯЛЫНІЦКІ-БІРУЛЯ.**

НОВАЕ ЖЫЦЦЁ МУЗЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ КАМПАЗІТАРА

# НАТХНІЦЕЛЬ І ДУША «МАГУТНАЙ КУЧКІ»

У свядомасці рускага чалавека імя Мілія Балакірава звязана з лепшымі старонкамі гісторыі музычнай культуры Расіі XIX стагоддзя. Піяніст, які дасканала ведаў інструмент, першакласны дырыжор, збіральнік фальклору, прагрэсіўны музычна-грамадскі дзеяч— такім паўстае Балакіраў у дзённіках, пісьмах і ўспамінах сучаснікаў. А яго творчая спадчына — сімфанічная і фартэпіянная музыка, рамансы — сведчыць аб надзвычайным кампазітарскім таленце. Нездарма Чайкоўскі пісаў: «Каб запісаць і гарманізаваць народную рускую песню і не сказіць яе, старанна захаваць характэрныя асаблівасці, патрэбна такое капітальнае і ўсебаковае музычнае развіццё, такое глыбокае веданне гісторыі мастацтва і разам такі талент, якія мае Мілій Балакіраў».

Балакіраў нарадзіўся ў Ніжнім Ноўгарадзе 2 студзеня 1837 года ў сям'і чыноўніка. Ужо ў чатыры гады праявіў ён цікавасць да музыкі. Зрэшты, першыя музычныя заняткі былі бессістэмныя і неўзабаве спыніліся. Ішлі гады, юнак вырашыў займацца самаадукацыяй: вывучаў Баха, Гендэля, Моцарта, Бетховена, Шапэна і іншых кампазітараў.

У 1855 годзе Мілій Балакіраў прыехаў у Пецярбург. Гэта былі пераломныя гады ў гісторыі рускай музычнай культуры. На опернай сцэне тых год уладарылі праслаўленыя італьянскія спевакі. Але расла патрэбнасць у нацыянальнай выканаўчай традыцыі, ішоў пошук яе стылю. На гэтым фоне яркі талент маладога Балакірава, яго мастацкі інтэлект праявіліся з ўсёй відавочнасцю. Ён хутка заваяваў аўтарытэт у музычна-літаратурных колах сталіцы. І неўзабаве адбылася славутая сустрэча двух кампазітараў — Міхаіла Глінкі і Мілія Балакірава. Потым Глінка ўспамінаў: «У Балакіраве я знайшоў погляды, такія падобныя да маіх ва ўсім, што тычыцца музыкі. З часам ён будзе другі Глінка!» Гэтыя словы аказаліся прарочымі: вернасць лепшым традыцыям свайго вялікага папярэдніка Балакіраў захаваў на ўсё жыццё.

Імпульсіўны, поўны творчых шуканняў, часам дзёрзкіх задум, Балакіраў адчуваў вялікую патрэбнасць у аднадумцах, іх духоўнай падтрымцы. Так з'явілася думка аб арганізацыі гуртка кампазітараў, пазней названага «Магутнай кучкай». У яго ўвайшлі Мікалай Рымскі-Корсакаў, Мадэст Мусаргскі, Аляксандр Барадзін, Цэзар Кюі. Па задуме Балакірава, новы гурток павінен быў «разам выпрацоўваць крытычна ўсе напрамкі кампазітарскай дзейнасці». Пачалася барацьба за сцвярджэнне ідэалаў нацыянальнага мастацтва, за ажыццяўленне ў музыцы ідэй сучаснасці. Развіваючы традыцыі Глінкі, члены «Магутнай кучкі» звярталіся да рускага фальклору, уключалі яго ўзоры ў свае творы.

Балакіраў стаў душой гуртка, яго ідэйным цэнтрам, натхніцелем і кіраўніком. Як успамінаў пазней Рымскі-Корсакаў, «яго слухалі беспярэчна, таму што абаянне яго асобы было вельмі вялікім. Малады, з цудоўнымі жывымі вачамі, з прыгожай барадой, размаўляў рашуча, аўтарытэтна і прама; кожную мінуту быў гатовы да цудоўнай імправізацыі за фартэпіяна, помніў кожны вядомы яму такт, імгненна запамінаў творы, якія чуў... Уплыў яго на людзей быў вялікі і нагадваў нейкую магнетычную сілу».

На сходах гуртка маладыя кампазітары расказвалі пра свае творчыя задумы, спрачаліся, музіцыравалі... Менавіта тады гучалі новыя творы. І кожны раз ацэнка Балакірава станавілася рашаючай у вызначэнні далейшага «лёсу» гэтых твораў. З'яўленне «Барыса Гадунова», «Хаваншчыны», «Князя Ігара», «Царскай нявесты» і многіх іншых опер стала магчымым толькі дзякуючы вялікай падтрымцы Мілія Балакірава.

«Магутная кучка» патрабавала ад Балакірава шмат часу, сіл, энергіі. Але ён працягваў ствараць музыку. Менавіта гэтыя гады, напоўненыя інтэнсіўнай дзейнасцю, сталі перыядам росквіту яго кампазітарскага таленту. Усяго якіх-небудзь дзесяць год, але іх творчы вынік уражвае размахам, разнастайнасцю, сталасцю: кампазітар стварыў музыку да трагедыі Шэкспіра «Кароль Лір», першую сімфонію, фартэпіянны канцэрт, сімфанічныя уверцюры, камерныя п'есы, рамансы.

Вялікі ўклад уносіў Балакіраў у справу прапаганды нацыянальнага музычнага мастацтва.

У пачатку 60-х гадоў кампазітар паехаў па Волзе з мэтай вывучэння і запісу рускага фальклору і неўзабаве выпусціў зборнік «40 рускіх народных песень». (Пазней многія з іх выкарыстаны нашымі кампазітарамі ў творах [illegible] буйной формы — операх, с[illegible]ніях). Паездка ж на Каўказ [illegible] яму багаты запас усходніх напеваў, адзін з іх мы чуем у фартэпіяннай фантазіі «Ісламей».

У тыя гады шматгранная творчая дзейнасць Балакірава, яго шчодры талент [illegible]гнулі кульмінацыі. Але ў пісь[illegible] кампазітара — як першы трывожны сімптом — узнікае матыў горычы, стомленасці, расчаравання. «Мне патрэбна толькі поўная свабода і адсутнасць усялякіх клопатаў, каб пісаць добра. Але займацца музычным аўтарствам — самы лепшы сродак памерці з голаду»,— пісаў Балакіраў. Перажываючы глыбокі духоўны крызіс, Балакіраў надоўга замкнуўся; ён перастаў пісаць музыку, адмовіўся ад публічных выступленняў, ад кіраўніцтва Бясплатнай музычнай школай... Толькі ў канцы 70-х гадоў у ім паступова пачаў адраджацца інтарэс да музыкі. Памёр Балакіраў 29 мая 1910 года.

Да юбілею кампазітара—150-годдзя з дня нараджэння былі прымеркаваны канцэрты з яго твораў, навуковыя семінары, прысвечаныя развіццю традыцый, ля крыніц якіх ён стаяў, прэм'еры радыё- і тэлевізійных перадач. Творы Балакірава — сімфоніі, уверцюры «Русь» і «Тамара» выконваюць лепшыя аркестры краіны — пад кіраўніцтвам дырыжораў Генадзія Раждзественскага, Яўгенія Святланава, Уладзіміра Федасеева. А для аматараў фартэпіяннай музыкі зноў падрыхтаваны «Ісламей» — адзін з найбольш «рэпертуарных» яго твораў, канцэрт для фартэпіяна з аркестрам, саната, цыклы мініяцюр. Спевакі пазнаёмілі слухачоў з вакальнай лірыкай кампазітара.

Вялікае бачыцца на адлегласці... Звяртаючыся да творчай спадчыны Балакірава, зноў разумееш справядлівасць гэтай ісціны. Вытрымаўшы выпрабаванне часам, яна перажывае сёння сваё «другое нараджэнне», сведчыць пра неразрыўнае адзінства мінулага і сённяшняга, гісторыі і сучаснасці.

**Ірына БЕЛЬСКАЯ,**
**музычны крытык.**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ






**Своеасаблівую творчую справаздачу правялі на Віцебшчыне беларускія мастакі. У абласным цэнтры, а таксама ў Полацку, Навапалацку і Ушачах былі разгорнуты экспазіцыі рэспубліканскай мастацкай выстаўкі «У краі блакітных азёр». Тут прадстаўляліся сотні твораў жывапісу, скульптуры, графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Амаль тры гады творчыя групы Саюза мастакоў БССР стваралі гэты ўражваючы летапіс Віцебшчыны. Працавалі па заказах працоўных калектываў прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў вобласці. Такое супрацоўніцтва ў многім садзейнічала таму, што старонкі слаўнай гісторыі гэтага краю і яго сённяшні дзень адлюстраваны ў фарбах і вобразах таленавіта і неабыякава.**

**Лепшыя работы выстаўкі складуць аснову карціннай галерэі, якая ствараецца ў абласным цэнтры.**

**НА ЗДЫМКАХ: В. КАМАРОЎ. Лінагравюра «Сімяон Полацкі; В. МІКІТА. Партрэт фрэзероўшчыцы Аршанскага завода «Легмаш» Н. Марчанка.**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**

# З ГІСТОРЫІ КАФЛІ

**Сёлета ў выдавецтве «Беларусь» выйдзе альбом «Беларуская кафля». Ён пазнаёміць чытачоў з адным з самых распаўсюджаных відаў дэкаратыўна-пры[illegible]кладнога мастацтва — арнаментальн[illegible] сюжэтнай керамікай XIV—XX ста[illegible]дзяў.**

**Многія матэрыялы, прадстаўленыя ў гэтым альбоме, сабраны ў выніку шматгадовых археалагічных і этнаграфічных экспедыцый складальнікаў выдання В. Собаля, М. Ткачова, А. Трус[illegible] У. Угрыновіча. Тут выкарыстаны та[illegible]ма матэрыялы даследчыкаў Інстытута гісторыі АН БССР, Інстытута археалогіі АН СССР, Ленінградскага універсітэта, вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» і кафля з экспазіцыі і фондаў Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея, Дзяржаўнага гістарычнага музея БССР і Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.**

**Альбом багата ілюстраваны, ён адрасуецца шырокаму колу чытачоў.**

**Прапануем вашай увазе раздзел з альбома «Беларуская кафля».**

У сярэдзіне XVI стагоддзя з далёкай Італіі прыйшлі на Беларусь ідэі Адраджэння. Яны пранікпі на падрыхтаваную глебу: з'явілася друкаваная кніга, гарады адзін за адным атрымлівалі магдэбургскае права, пашыраліся і ўзнікалі новыя рамесныя цэхі. Адраджэнне закранула архітэктуру, жывапіс, скульптуру, кніжную графіку і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.

Ганчары пачалі паступова спецыялізавацца і ўсё больш аддаляцца ад вясковых майстроў, якія па-ранейшаму выраблялі просты непаліваны посуд. Каробкавая кафля, пакрытая зялёнай палівай, стала карыстацца вялікім попытам сярод гарадскога насельніцтва. Кафляры наладжваюць устойлівыя сувязі з разьбярамі, заказваюць у іх спачатку гліняныя, а потым драўляныя формы з малюнкамі для вонкавых пласцін. Кафляная печ становіцца велічным архітэктурным збудаваннем.

У гэты час пашыраны розныя варыянты старажытнага геаметрычнага арнаменту: квадраты, выпуклыя ці ўвагнутыя авалы або разеткі, салярныя знакі. Гэтыя запазычаныя са старажытнага народнага мастацтва сімвалы атрымалі сваё ўвасабленне не толькі ў кафлярстве. Іх шмат у народнай разьбе па дрэву, у вышыўцы на адзенні, нават у архітэктуры. Так, аздабленне аднаго з акон старажытнай царквы ў Кодна (1530 год) вельмі нагадвае звычайную, толькі павялічаную ў памерах кафлю.

З'яўляецца сюжэтная кафля з рознымі алегарычнымі або міфалагічнымі сцэнамі. Вялікая калекцыя такой кафлі знойдзена пры раскопках Мядзельскага замка. Тут выяўлена і вялікая колькасць паліхромнай кафлі, колерная гама якой была запазычана ў заходнееўрапейскіх майстроў. З'яўленне ў сярэдзіне XVI стагоддзя на Беларусі шматколернай керамікі — несумненна, вынік творчых «вандровак» беларускіх кафляў у Італію, Паўднёвую Германію і Чэхію. Варта адзначыць, што ў Беларусі, як і ў Літве, у гэты час з'яўляецца «партрэтная» кафля з выявамі мужчыны або, радзей, жанчыны ў рэнесансным уборы. Некаторыя экземпляры маюць надпіс-абрэвіятуру, які пакуль не ўдалося расшыфраваць. Не выпадкова, што арэал распаўсюджвання такой кафлі вельмі шырокі. На сённяшні дзень яна знойдзена ў Клайпедзе, Вільнюсе, Полацку, Дзяржынску, Маладзечне, Мінску, Заслаўі, Лагойску і Мазыры.

Аналагічныя выявы, але на паліхромнай кафлі, вядомы і ў польскім матэрыяле. У тым выпадку, калі кафля мела падабенства з пэўнай асобай, падпісвалі прозвішча і імя чалавека. У якасці прыклада можна прывесці кафлю з выявай Марціна Лютэра, знойдзеную нядаўна пры даследаванні Цэсіскага замка ў Латвіі. Да нас дайшоў партрэт вядомага дзеяча беларускай рэфармацыі Васіля Цяпінскага, выкананы ў тэхніцы, аналагічнай да вышэйназванай «партрэтнай» кафлі. Відаць, мы маем справу з рознымі варыянтамі моднага ў той час абагульненага вобраза гуманіста-асветніка ў адпаведным уборы. Першыя выявы чалавечых твараў з'яўляюцца на асобных пячных дэталях: на карнізных кафлях і гарадках. Найбольшую цікавасць з іх уяўляе выява чалавечага твару-сонейка на лагойскай карнізнай кафлі.

З Адраджэння да сённяшняга часу ў беларускім мастацтве існуе выява букета кветак у вазоне. З'явіўшыся спачатку на старонках скарынінскіх выданняў, гэты сюжэт хутка перайшоў у кафлярства, прычым адначасова стаў ужывацца ў розных ганчарных цэнтрах і ў кожнага майстра меў нейкія свае адметныя рысачкі.

**Алег ТРУСАЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: паліхромная кафля з Мірскага замка. Канец XVI — першая палова XVII стагоддзяў.**

**Фота В. КАРБОЎСКАГА.**



**Трыццаць год назад у адзін з сакавіцкіх дзён Васіль Вітка падпісаў у друк першы нумар беларускага дзіцячага часопіса «Вясёлка». Прайшоў час, і зараз гэтае выданне — адно з самых папулярных у нашай дзятвы. На старонках «Вясёлкі» друкуюць свае творы вядомыя пісьменнікі: Максім Танк, Пімен Панчанка, Васіль Вітка, Ніл Гілевіч, Артур Вольскі... Часопіс заўсёды маляўніча, прыгожа аформлены. Цікавыя апавяданні, вершы, казкі, загадкі, прыказкі, прымаўкі, песні — вось прыкладны змест кожнага нумара. Сёння мы прапануем увазе маленькіх чытачоў «Голасу Радзімы» некаторыя з твораў, што публікаваліся ў часопісе «Вясёлка».**




Алесь АС[illegible]НКА

# ЯК ВЯСНА ЗІМУ ПРАГНАЛА

Разлеглася ў полі зіма, распусціла сівыя космы. Ляжыць — і ні з месца. Ніякіх у яе клопатаў.

Служаць зіме верныя слугі — калючы вецер ды пякучы мароз. Абодва сярдзітыя.

Калючы вецер лісце з дрэў абтрос, траву ў полі высушыў, каб зіме мякка ляжаць было. А пякучы мароз скаваў зямлю і рэчкі лядовымі аковамі. Застаўся ў мароза і ветра адзін клопат — вартаваць спакой матухны-зімы. Пякучы мароз па заснежаных прасторах шастае, сочыць, каб ніхто без патрэбы не бадзяўся. А калючы вецер сваю службу нясе. Толькі выгляне сонейка — вецер як пачне дзьмуць! Не можа сонейка на неба ўзабрацца. Так і коціцца небакраем. Свеціць, а не грэе. А зіма цешыцца: добрыя ў яе слугі.

Надакучыла дзецям зіма. Мамы на вуліцу не пускаюць, баяцца, каб не прастудзіліся. Калі ж і дазволяць на двор выйсці, дык спачатку так захутаюць, што кроку не ступіш. А ім падурэць хочацца.

Дзе тая вясна затрымалася?

Чакалі, чакалі дзеці вясну. Сталі гукаць:

**— Вясна-красна,**
**Залатая каса!**
**Прыходзь, вясна,**
**З белай хмаркаю**
**І пышаркаю,**
**З травой-муравой,**
**З птушыным граем —**
**Мы цябе чакаем,**
**Вельмі чакаем.**

Пачула вясна, прыбегла на край поля. Стала сонейка ўгору падкідаць. Што ні дзень — усё вышэй. Дарэмна стараўся калючы вецер. Стаміўся, а не можа здзьмухнуць сонейка на небакрай. Палез у чараты, прыціх, лагодны зрабіўся.

А мароз наўцёкі кінуўся. Не азіраючыся, аж да Паўночнага полюса бег. Стаў прасіцца ў белых мядзведзяў:

— Пусціце вясну і лета перачакаць.

Махнуў белы мядзведзь лапай:

— Калі ласка! Мы цябе не баімся.

Засталася зіма без слуг. Спаўзла з палявых пагоркаў у кусты, прытаілася. А вясна тут як тут. Вясёлая. Ідзе, кветкі па лузе раскідае.

Заплакала зіма, пытае:

— Чаго ты прыйшла? Хто цябе клікаў?

Адказала вясна:

— Дзеці клікалі. Цяпер я іх забаўляць буду. А ты, бабуля, уцякай.

Нядобра стала зіме. Скончылася яе ўлада. Прыкульгала яна да ракі, села на апошнюю крыгу і паплыла ў акіян.

А вясна забралася на балкон, адчыніла дзверы ў пакой. Сонечны зайчык скокнуў па сцяне, са сцяны — на ложак. Прачнуліся дзеці, а вясна іх цёплае адзенне ў шафу складае. Можа, спатрэбіцца?..

Максім ТАНК

## ВАВЁРКА І ДЗЯЦЕЛ

**Спадабался Вавёрцы жвавай**
**Дзятлава дупло,**
**Толькі як займець, не знае,**
**Гэта слаўнае жытло.**

**Як ёй выманіць суседа**
**За парог!**
**Мо прывабіць сваім танцам**
**«Цох-цох-цох»!**

**— Што ты, — Дзяцел**
**запытаўся, —**
**Скачаш тут!**
**— А ты, знаць, не чуў,**
**Дзюбаты шалапут:**
**Цар Арол усім пярнатым**
**Даў загад**
**Да яго збірацца сёння**
**На парад...**

**Дзяцел доўга не марудзіў,**
**Фрак уздзеў,**
**На пушчанскі**
**Пляц арліны паляцеў.**

**Прыляцеў, а там — нікога.**
**Зноў — назад,**
**Здагадаўшыся, што гэта**
**За парад.**

**А ў дупле яго — Вавёрка.**
**Як тут быць!**
**Трэба зноў сабе**
**Прыстанішча рабіць.**

**Бо скакусе —**
**Незгаворчывай куме —**
**Пакідаць дупло такое**
**Не навуме.**

**Цяпер, чуючы, што ў лесе**
**Хтось дзяўбе,**
**Знайце: Дзяцел ладзіць**
**Новы дом сабе.**

Ніна МАЦЯШ

## НАТУРШЧЫЦА

**У двары вясёлы гам:**
**Снегавуху лепяць там.**

**Пятрок, Змітрок і Таня**
**Снег у камы качаюць.**

**Збірае голле Генік,**
**Майструе бабе венік.**

**Кудлаты Юльчын Буля**
**Нясе ў зубах каструлю.**

**— А ты чаго тут, Ганька,**
**Са шваброй каля ганка!**
**У крыўдзе на сяброў сваіх!**

**— А я натуршчыцаю ў іх!**

Казімір КАМЕЙША

## КРАВЕЦ КАНЯЎСКІ

**Дзе жыве кравец Каняўскі!**
**Я скажу вам, дзе жыве:**
**У мястэчку Заканаўскім,**
**За канавай,**
**У траве.**

**Майстра знаюць за канавай.**
**У яго — сябры і слава.**

**Стракатун**
**Не спіць і ўночы,**
**Бо працуе сам за двух.**
**І стракоча, і стракоча,**
**Абшывае цэлы луг.**

**Шые світкі і накідкі,**
**Шые з шоўку і сукна.**
**Шые ўсё зялёнай ніткай,**
**Сам зялёны, як вясна.**

**Чмель тутэйшы майстра**
**хваліць.**

**Задаволен майстра сам.**
**Так асе кафтан пыталіў —**
**Рада модніца-аса.**

**А цяпер сказаць пара**
**І пра крыўду камара.**
**Не любіў яго Каняўскі,**
**Як і ўсе ў Заканаўскім.**

**— Мне касцюм, — камар**
**прасіў, —**
**Ты пашый, ды як не ўсім.**
**А Каняўскі ў адказ:**
**— Гэта не па мне заказ.**
**З рогату камар аж тросся:**
**— А краўца адсюль**
**папросяць,**
**А краўца з травою скосяць.**
**Я-то сам пераканаўся:**
**Ён ніякі не Каняўскі,**
**Проста выскачка з травы,**
**Проста конік лугавы...**

**Доўга майстра ён няславіў,**
**Ажно плюхнуўся ў канаву.**
**З камара ўвесь луг рагоча,**
**А кравец жыве, стракоча.**

# крынічка

Анатоль СІЛЯНКОЎ

## СМЯШЫНКА

У пакоі зазваніў тэлефон.

— Дзеду, прыходзь хутчэй! — узрадаваўся Пілілок, пачуўшы ў трубцы знаёмы голас.

Ён шморгнуў носам, выцер слёзы.

— Цябе нехта пакрыўдзіў? — занепакоіўся дзядуля. — Не? Ага, ты проста згубіў смяшынку.

— Нічога я не губляў, — сказаў Пілілок, і слёзы зноў пацяклі з вачэй. — Пабудаваў дом з кубікаў. Ды лялька ў дзверы не пралазіць. А Мікітка не хоча памагчы. Сядзіць і піша.

— Не пралазіць, кажаш? — перапытаў дзядуля. — Гэта не бяда. Мы з табой вось што зробім: здымем дах, пасадзім ляльку зверху.

Пілілок кінуўся да свайго дома. Праз колькі хвілін ён ужо крычаў у трубку:

— Паглядзі, дзеду, залезла!

— Бачу, унучак. А смяшынкі не знайшоў? Ці не схавалася яна з тваімі цацкамі, раскіданымі па хаце? Збяры іх і складзі ў сваю шафку.

Пілілок хуценька прыбраў цацкі, узяў трубку:

— Дзеду, не відаць смяшынкі.

— А можа, яна ў кветках хаваецца? Палі вазоны, паглядзім, ці там смяшынка.

Пілілок набраў у кубак вады, паліў кветкі. На стале ён убачыў свой сшытак, у якім сам напісаў тры словы: мама, тата, мір. Узяў сшытак, вярнуўся да тэлефона.

— Дзеду, я ўчора пяцёрку атрымаў, — пахваліўся ён. — Па пісьму. Бачыш, якая вялікая!

— О, як прыгожа ты пішаш, унучак! — сказаў дзядуля і засмяяўся. — Не горш за Мікітку.

Задаволены Пілілок таксама засмяяўся. А ў трубцы зноў пачуўся дзядулеў голас:

— Дык вось дзе хавалася твая смяшынка! У тваім сшытку.

## ХВІЛІНКІ-ВЕСЯЛІНКІ

**…ма:**

**…арынка, ты вельмі непаслухмяная дзяўчынка. Адны непрыемнасці праз цябе. Я ўся пасівела.**

**Марынка:**

**— Мамачка, калісьці і ты, маленькая, не слухалася. Паглядзі, колькі сівых валасоў у бабулі.**

**…ленькі сын прынёс дадому чарапаху.**

**…авошта яна табе? — пытаецца маці.**

**— Хачу праверыць, ці праўда, што чарапаха жыве дзвесце гадоў.**

**— Дзядуля, а ты быў маленькі!**

**— А як жа, унучак. І ў першы клас хадзіў, як і ты.**

**— Відаць, смешны ты быў са сваёю барадою!**



На прагулку з дочкамі. Фота А. ТАЛОЧКІ.



**НАШ АДРАС:**

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 564